Год выданьня 66. № 618, Сьнежань - Студзень 2015-16 г. Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС




**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
***Published by the Belarusan American Association, Inc.***

*Address:* **166-34 Gothic Drive Jamaica, NY 11432, USA**
*E-mail:* ***bielarus@bazahq.org***

***Паважаныя чытачы!***

Вітаем вас на старонках першага ў новым 2016 годзе выпуску нашай газэты. Яшчэ раз віншуем з ужо надышоўшым годам і спадзяемся, што мы застанемся разам на гэтым новым этапе нашага жыцьця.

На старонках газэты вы знойдзеце інфармацыю пра падзеі апошняй дэкады сьнежня і паловы студзеня. За гэты час мы двойчы адсьвяткавалі Каляды па каталіцкаму і праваслаўнаму каляндару, радасна сустрэлі Новы год. Напэўна, многія з вас і мы таксама лічым гэты каляндарны перыяд найбольш цікавым, прыгожым, вясёлым. Гэта час падсумаваньняў мінулага і будаваньня плянаў на будучыню, час сустрэчаў з роднымі і сябрамі за сьвяточным сталом, час кантактаў з дапамогаю тэхнікі з тымі, хто далёка ад нас. Відаць. кожны мае сярод сваіх знаёмцаў і тых, з кім кантактуе раз у год, менавіта ў гэтыя вось сьвяточныя дні. Яны адыходзяць у мінулае і мы зноў вяртаемся да нашых будзённых справаў, упрагаемся ў аглоблі нашых жыцьцёвых абавязкаў і адказнасьцяў. Калі мы спраўна дацягнем свой вазок да наступнага году, то будзем мець шчасьце сустрэць яго з радасьцю і задавальненьнем. Дык возьмемся за працу з яшчэ большым імпэтам! Не занядбаем і нашы грамадзкія справы, і нашу газэту таксама.

Посьпехаў, здароў'я, шчасьця, спакою, дабрабыту вам і вашым сем'ям!

***Рэдакцыя***

# Архіяпіскап Сьвятаслаў Логін:

## Просім у Госпада, каб захоўваў Бацькаўшчыну ад міжусобіцаў і нашэсьця чужынцаў

***Калядны зварот да вернікаў першагерарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы***



Любыя браты і сёстры ў Хрысьце!

Штогод мы ўрачыста сьвяткуем Раство Хрыстова — цуд прыходу на Зямлю Мэсіі, які прадказвалі прарокі. Прычына нараджэньня Ісуса Хрыста — перамагчы ў чалавечай прыродзе грэх і сьмерць, што Збаўца наш і зрабіў сваімі пакутамі на Крыжы, для чаго Ён, Сын Божы — адна з асобаў Сьвятое Тройцы, паяднаўся з чалавекам, прыняўшы чалавечую прыроду. Таксама вынікам гэтае гістарычнае падзеі было заснаваньне Сынам Божым нашае Хрысьціянскае Царквы, да якое тысячу гадоў таму далучыўся й Беларускі народ.

Зямное жыцьцё ёсьць толькі кароткім прамежкам часу, за які чалавек рыхтуе сябе да вечнасьці. Нашая вера робіць дабро ня толькі для нашае душы, але й для ўсяго сьвету, а грэх робіць зло нам і ўсім людзям. Хрысьціянства любіць ўсіх людзей, і грэшных і праўдных, але засуджвае грэх, які губіць людзей, а часам і цэлыя народы. Ці можна назваць народ Хрысьціянскім, калі ён карыстаецца ня Божымі запаветамі, а наказамі свайго зямнога царка, ня маючы любові да іншых народаў, нахабна захапляе іхныя тэрыторыі, пры гэтым прыкрываючыся Хрыстовай верай?

Нашы продкі, датрымоўваючыся Божых законаў, бралі зброю ў рукі не для нападу на іншых, а для абароны свайго народу і дзяржавы. Таму Беларуская Царква моліцца за ўсіх Беларусаў, якія жывуць на Бацькаўшчыне і ў Замежжы і за тых, хто цяпер дапамагае братам-украінцам абараняць сваю дзяржаву ад ўсходняга агрэсара. Просім заўсёды ў Госпада міру й шчасьця сваім суайчыньнікам, каб захоўваў нашу Бацькаўшчыну ад міжусобіцаў і нашэсьця чужынцаў. Хай Ласка Божая перабывае з Вамі й вашымі блізкімі!

Хрыстос нарадзіўся! Слаўце Яго!

# Івонка Сурвіла: Зычу веры ў будучыню і адраджэння Беларусі



***Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла зьвярнулася са сьвяточным вітаньнем да беларусаў.***

«Дарагая суродзічы! Дарагія сябры!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую вас са Сьвятам Божага Нараджэньня! Жадаю кожнаму з вас добрага здароў'я, асабістага шчасьця і плёну ў працы.

Усім нам, дарагія суродзічы, зычу веры ў будучыню і цярпеньня. Пераадолеем усе цяжкасьці, усе зьдзекі з нашай культуры, усе пагрозы нашаму існаваньню на гэтай зямлі. Разам мы адродзім наш край, мы зробім яго вольнай і заможнай дзяржавай у сям'і эўрапейскіх дзяржаваў.

Дык шчаслівага 2016 году, дарагія суродзічы! Жыве Беларусь".

Шаноўныя сябры!

Віншуем вас з Калядамі і Новым годам!

З многімі з вас мы працуем разам ужо 25 гадоў, менавіта столькі споўнілася у адышоўшым 2015 годзе "Бацькаўшчыне"! Спадзяемся, што 2016 год замацуе нашыя супольныя посьпехі і сталае партнёрства! Хай рэалізоўваюцца вашыя пляны, зьдзяйсьняюцца мары, пашыраецца сяброўства, віруе актыўнасьць у вашых асяродках!

Жадаем пражыць сьвяты са сьветлымі думкамі і з добрым настроем!

Няхай надыходзячы год прынясе шмат цікавых падзей, добрых навінаў і пазітыўных эмоцый! Добрага вам здароўя, посьпехаў ва ўсіх справах, дабрабыту, нязгаснай энергіі і натхненьня на новыя дасягненьні ў нашай агульнай працы на карысьць незалежнай Бацькаўшчыны-Беларусі.

Шчаслівых Калядаў і Новага года!

Будзьма разам!

***Управа Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"***




Мілыя ў Хрысьце браты й сёстры! Віншую вас з Вялікім Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага! Каб у Новым годзе Хрыстовым ад Яго Нараджэньня 2016-м мір і спакой быў у вашых хатах і ва ўсім Сьвеце Божым.

Каб Божы люд ня ведаў войнаў, пажараў, віхураў, патопаў, ніякага голаду, холаду й мору, ані землятрусаў, ніякіх цунамі, тарнадаў і чарнобыльскіх катастрофаў!

Захавай, Божа, Літву-Беларусь незалежнай і вольнай, зямлю нашу плоднай, паветра чыстым, ваду здаровай, каб мы дасягнулі плёну ў працы і згоды ў грамадзе, спагады і любові ў кожнай сямейцы ў нашай Ліцьве. Божа Магутны! Дай нам-ліцьвінам сілы спазнаць Тваю літасьць, ласку й міласьць і дабрыню, дай моцы пазбыцца аблуды, здрады, халуйства ды варожага ўціску-навалы з боку Масквы. Жадаю вам, вашым родным і блізкім працы па душы, дабрабыту, ладу, поспехаў-удачы, добрых сяброў, вялікага шчасьця і здароўя бязь лекаў, радасьці-ўцехі і доўгага веку!

З малітваю,

***айцец Леванід Акаловіч***
*зь Менску Літоўскага*

# Навагодні баль у Нью-Ёрку

У грамадзкай залі на Атлантык Авэню 401 у апошні вечар 2015 году сабралася гаманкая беларуская грамада, каб сустрэць разам Новы - 2016 год. Сярод прысутных пераважала моладзь. Дзяўчаты і хлопцы не толькі танчылі і весяліліся, але і шмат папрацавалі, каб падрыхтаваць сьвяточны стол, упрыгожыць залю, падрыхтаваць забаўляльную праграму. Старэйшыя ўзялі на сябе больш арганізацыйную ролю. Тацьцяна Красоўская і спадарства Алы і Уладзіміра Караткевічаў асабліва шмат спрычыніліся да таго, каб зрабіць усе патрэбныя закупы, скласьці меню і аргнізаваць усе кухарскія справы, каб сьвяточная вячэра была прывабнаю і смачнаю. Бруклінскі аддзел БАЗА добра арганізаваў рэкляму і запросіны, так што кожны жадаючы мог узяць удзел у балі.

Як і ў мінулым годзе, Сьвята ўпрыгожылі сваёй прысутнасьцю беларускія музыкі з Саўт-Рывэру Таня і Валянцін Дзямешчыкі . Яны змаглі задаволіць усе музычныя густы - ад рамантычных мелёдый да полькі-трасухі. Баль працягваўся да самай раніцы.

### ПЕРАГУК НЯМЕЦКАЙ КАЛЯДКІ

О елачка, О елачка,
Якія цудоўныя твае іглінкі!
Вітаеш нас у летні час і ўзімку
О елачка, О елачка,
Якія цудоўныя твае іглінкі !

*Кастусь Верабей*









# Каляды ў Чыкага

Беларуская грамада ў Чыкага 16 студзеня адсьвяткавала супольныя Каляды! Свята было вясёлым і цёплым: калядавалі, сьпявалі, танчылі, вячэралі і гутарылі. Да Бабы і Дзеда завіталі калядоўшчыкі з Каляднай Зоркай, Казой, Мядзведзем і батлейшчыкамі. У тую самую хату таксама зайшоў Дзед Мароз. Дзеткі сьпявалі, чыталі вершы і паказалі ўсім казку "Як мыш жаніха шукала", а Дзед Мароз прынёс дзеткам цудоўныя падарункі.











# Калядны сьпектакль у Таронта

Парафія Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага і Згуртаваньне беларусаў Канады зладзілі Калядную Ялінку ў Таронта.

Удзельнікаў Ялінкі першым вітаў Айцец Яўген. Ён распавёў дзецям пра жыцьцё Сына Божага, Ісуса Хрыста, пасля чаго пачаўся спектакль. Мамы і таты праявілі ініцыятыву ў гэтым годзе і паставілі спектакль паводле п'есы Сяргея Кавалёва "Шлях да Бэтлеёму".

На Ялінку традыцыйна завіталі і Калядоўшчыкі з казой, мядзведзем і буслам, якія забавілі дзяцей і бацькоў калядкамі і гульнямі.

Дзед Мароз і Снягурка вадзілі з дзеткамі карагоды вакол Каляднай ялінкі і выслухалі ўсе вершы і песьні, падрыхтаваныя дзецьмі. І вядома, усе атрымалі падарункі, якія, дарэчы, у гэтым годзе былі з Беларусі. Літаратурна-забаўляльны дзіцячы альманах "Гарбузік" з макетам Лідскага замка і наборам паштовак "Не маўчы па-беларуску" павезлі дадому больш за тры дзясяткі маленькіх канадзкіх беларусаў.

Беларуская Ялінка вабіць сваёй хатняй, утульнай і сьвяточнай атмасферай з пазітыўным зарадам энэргіі на ўвесь год, таму заўсёды на сьвята зьбіраецца шмат дзетвары і дарослых.



# Ялінка ў Нью-Ёрку









У нядзелю 10 студзеня ў Беларускім цэнтры на Атлянтык Авэню 401 было весела і шумна. У гэты дзень сярод прысутных было заўважна шмат дзяцей, бо там ладзілася штогадовая традыцыйная Ялінка для маленькіх беларусаў. Дарослыя ўжо адсьвяткавалі ўсе свае сьвяты і цяпер прыйшла чарга дзетак. Менавіта ім была аддадзеная ўся ўвага, адпаведна ўпрыгожаная заля, смачныя стравы. Дзетвара весялілася на ўсю моц - скакалі, танчылі, гралі й сьпявалі. Усе прыгожа, па-сьвяточнаму, апранутыя, а самыя маленькія выглядалі найпрыгажэй у сваіх белых сукеначках з бялюткімі анёльскімі крыламі за сьпіною. Так іх апранулі дзеля ўдзелу ў тэатральнай каляднай дзеі, якую разам з імі падрыхтавалі старэйшыя. Артысты пад кіраўніцтвам Вольгі Талатынік с дапамогай мастачкі Наталлі Сарагавец і Зьмітра Кавалёва прадставілі гледачам спектакль-батлейку.





А потым дзеці з нецярплівасьцю чакалі зьяўленьня Сьв. Мікалая, які меў прыехаць з падарункамі. І не проста чакалі, але доўга гукалі і запрашалі яго, бо сьв. Мікалай троху прыпазьніўся і паведаміў, што ніяк не мог "прыпаркаваць" каля царквы свой вазок з аленямі. Ён папрасіў дзяцей дапамагчы яму несьці мяшок з падарункамі і трэба было бачыць гэтае відовішча, калі ўся дзетвара кінулася яму на дапамогу і гуртом цягнулі гэты мех. А сьв. Мікалай, аднак, не сьпяшаўся раздаваць падарункі, а спачатку прасіў дзяцей іх "зарабіць" - прасьпяваць песеньку, ці расказаць вершык, ці станчыць. Ад жадаючых не было адбою, усе цягнулі ўверх ручкі, каб паказаць свае таленты і атрымаць прысмакі. Нават самыя нясмелыя адважыліся на публічны выступ, некаторыя, як выглядала, першы ў іхным жыцьці. Сьв. Мікалай разам з дзецьмі вадзіў карагоды вакол ялінкі і сьпяваў песенькі. А хор дарослых падрыхтаваў і выдатна прадэманстраваў некалькі беларускіх Калядак, найперш "Саўку ды Грышку".







Весяліліся ад душы дзеці і дарослыя, сьвята працягвалася амаль да самага вечара, а некаторыя адыходзілі ўжо, калі сьцямнела. Відавочна, што разыходзіцца многім не хацелася. Асабліва тым, хто прыходзіць толькі раз у год на "Ялінку", але і ўсім было цікава пабачыцца, пагаварыць. падзівіцца, як падраслі дзеткі за год, пасталелі, чаму новаму навучыліся. А да новай сустрэчы на "Ялінцы" давядзецца чакаць яшчэ цэлы год. Было троху сумна, але разьвіталіся з надзеяю пабачыцца са сьв. Мікалаем і сябрамі на "Ялінцы" наступнага году.

Трэба дадаць, што ў гэты дзень, перад "Ялінкаю", у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў гэтым жа будынку адбылася нядзельная Багаслужба з удзелам Архіепіскапа Сьвятаслава, які ў гэты час наведаў нашу Парафію.

***Ганна Сурмач***

# Калядная Ялінка ў Саўт Рывэры

У горадзе Саўт-Рывэр, штат Нью-Джэрзі, дзе даўно жыве шматлікая беларукая грамада, штогод пасля Калядаў ладзіцца сьвяткаваньне беларускай Каляднай Ялінкі.



Падзея адбылася ў залі Беларуска-Амерыканскага цэнтра, што стаіць ужо больш за сорак гадоў побач праваслаўнай царквы св. Еўфрасіньні Полацкай. У нядзелю 10-га студзеня пасля багаслужбы новы настаяцель прыходу а. Канстанцін прывітаў і блаславіў удзельнікаў сьвяточнай імпрэзы і прысутных гасьцей. Праграма сьвяткаваньня была традыцыйная: сьпяваньне калядак, дэкламаваньне вершаў, народныя танцы, музыка. Сястрынства прыходу падрыхтавала смачны абед, а затым адбыліся гульні й танцы. Пад канец сцэнічнай праграмы прыбыў гучна сустрэты Сьв. Мікалай з мяхом падарункаў. Разам з дзецьмі радаваліся й бацькі ды ўспыхвалі фотаапараты. Сьвята падрыхтавалі дасьведчаныя



рэжысёркі спадарыні Таццяна Дзямешчык і Віла Ляўчук пры дапамозе ўдзячных прыхаджанаў.

***Янка Запруднік,***
*фота Надзеі Запруднік*





# У Нью-Ёрку адзначылі 85- я ўгодкі Уладзіміра Караткевіча

У нядзелю 20 сьнежня ў Беларускім цэнтры на Атлантык Авэню 401 адбылася імпрэза, прысьвечаная 85-м угодкам ад нараджэньня Уладзіміра Караткевіча. Рыхтавала сьвята моладзевая група Бруклінскага аддзелу БАЗА. Зьмястоўны рэфэрат пра творчасьць пісьменьніка прачытала Алена Пракоп. Чытаньне дапаўнялася мастацкай праграмаю — дзяўчаты і хлопцы ў нацыянальных строях дэклямавалі вершы Караткевіча. Выканаўцамі былі Зьміцер Кавалёў, Юля Цыбулька, Максім Кучынскі, Сьвятлана Казачок, Алег Кавалёнак і Натальля Федарэнка — галоўны рэжысёр праграмы, сяброўка управы Аддзелу. У другой частцы імпрэзы прайшла віктарына па творчасьці пісьменьніка. Прысутныя падзяліліся на дзьве каманды і вядучая Натальля Федарэнка агучвала пытаньні, а каманды супернічалі між сабою, хто хутчэй і дакладней дасьць адказы. Каманду — пераможцу віталі бурнымі воплескамі. Прысутныя выразна прадэманстравалі добрае веданьне творчасьці знакамітага пісьменьніка.





Карыстаючыся нагодаю, Ганна Сурмач нагадала ўдзельнікам імпрэзы, што ў гэтыя дні — 22 сьнежня, спаўняецца 70 гадоў ад пачатку дзейнасьці ў Нямеччыне Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, якую заклалі паваенныя беларускія эмігранты ў лягеры ДП, дзе жылі пасьля ад'езду з Бацькаўшчыны. Сп. Ганна коратка распавяла пра сытуацыю, у якой апынуліся беларускія ўцекачы і пра іх імкненьне ў неспрыяльных абставінах клапаціцца пра нацыянальную адукацыю дзяцей і моладзі. Назвала таксама імёны тых сяброў, якія сёньня належаць да БАЗА і вучыліся некалі у Гімназіі імя Янкі Купалы — Анатоль Занковіч, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Ала Орса-Рамана, Юля Андрусышын. Згадвалася і пра тое, што пра гісторыю Гімназіі напісаная кніга беларускім дасьледчыкам з Беластоку Янам Максімюком.

*Ганна Сурмач*



# Доктар Расьціслаў Гарошка ўзнагароджаны Ордэнам Мэльхісэдэка

10 студзеня ў Катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне па завяршэньні Каляднай Багаслужбы з удзелам архіяпіскапа БАПЦ Сьвятаслава Уладыка ўручыў старшыні Парафіяльнай рады Сабору доктару Расьціславу Гарошку Ордэн Мітрапаліта Менскага Мэльхісэдэка.

Ордэн Мэльхісэдэка заснаваны ў 2014 годзе і ўручаецца за асаблівыя заслугі перад БАПЦ. Усяго да гэтага часу былі ўручаныя 4 ордэны.

Спадар Гарошка зьяўляецца актыўным парафіянінам БАПЦ з 1949 году, а ягоныя бацькі былі фундатарамі Сабору Кірылы Тураўскага. Рукамі спадара Гарошкі зроблена шмат працы ў будынку Сабору, і ён працягвае займацца ёю, нягледзячы на паважны ўзрост.

Віншуючы спадара Гарошку, прыхаджане сьпявалі яму "Дай божа шмат год" і зычылі яму добрага здароўя і плёну на ніве БАПЦ.



# СУМНАЕ «ВОСХИЩЕНИЕ»

Неяк прачытаў у раённай газэце інтэрв'ю маладой настаўніцы музыкі ды сьпеваў. Уразіла прызнаньне, як яна стала выкладчыцай, як палюбіла музыку. Аказваецца, яе дзявочае прозьвішча — Багдановіч, таму зацікавілася творчасьцю Максіма Багдановіча, вершы яго падаліся дзяўчыне надзвычай мелядычнымі, пачала напяваць іх. А калі пачула па радыё «Слуцкія ткачыхі» ў выкананьні «Песьняроў», дык яе «восхищению не было предела». Цьвёрда вырашыла паступіць у музычнае вучылішча.

Прачытаўшы гэтыя словы, мне зрабілася вельмі сумна. Чаму ж гэтая сымпатычная жанчынка, у газэце яе каляровы здымак, пад моцным уражаньнем ад Максімавых вершаў не палюбіла беларускую паэзію, не адчула сябе Беларусачкай?

Мабыць, таму, што ў Магілёўскай музычнай вучэльні не панаваў дух беларушчыны. Як не было яго і ў Магілёўскім культасьветвучылішчы, якое я скончыў у далёкія пяцідзесятыя гады, дзе навучэнцы адвучалі ад усяго роднага. Галоўным быў курс "Партыйно-палітычная работа в деревне". Былі лекцыі пра культуру «речи», у якіх нас вучылі асаблівасьцям маўленьня ў Маскве і Ленінградзе, і ні слова пра культуру беларускай мовы, пра беларускі фальклёр. Не дзіва, што праграмы канцэртаў я вёў на расейскай мове, так я рабіў і калі пачаў працаваць у Дзяржынскім, так і хочацца напісаць Койданаўскім, раённым Доме культуры.

Але, вернемся да інтэрв'ю настаўніцы сьпеваў. Калі б журналістка задавала пытанні па-беларуску, адказ на іх быў бы на роднай мове, бо песьні беларускія выкладчыца любіць. Вось як яна гаворыць, каб пераканаць чытача, працытую газэтныя радкі: «Воспитание духовно-нравственной личности, воспитание чувства патриотизма следует осуществлять через слушание и исполнение произведений белорусских композиторов. Через обычаи и традиции Беларуси, культурное наследие нашей страны». Хай сабе па газэтнаму кастрыбавата, але па сутнасці правільна. Некалі пры савецкай уладзе, гэтая газэта была цалкам беларускамоўная, а цяпер амаль усе матэрыялы друкуюцца па расейску.

Тут варта зазначыць: Магілёўскі музычны каледж носіць імя Рымскага-Корсакава, культасьветвучылішча — імя Крупскай, Белдзяржуніверсітэт, журфак якога вывеў мяне ў людзі, імя Леніна. Не дзіва, што журналістка задавала пытанні на расейскай мове, а гераіня публікацыі, вялікая прыхільніца Максіма Багдановіча, не сказала:

"Хачу, каб маё інтэрв'ю было на роднай мове".

Шкада, што яна гэтага не зрабіла, хоць зрабіць гэта мела поўнае права.

*Леанід Левановіч*

# Да другой гадавіны Майдану

У лютым спаўняецца два гады, калі народ Украіны на Майдане ў барацьбе за незалежнасьць і эўрапейскую будучыню сваёй дзяржавы атрымаў першую перамогу над прарасейскім марыянетачным рэжымам Януковіча. Яна ўвайшла ў гісторыю Украіны як Рэвалюцыя Годнасьці, бо ў гэтай барацьбе выразна праявіліся лепшыя якасьці чалавека, як грамадзяніна — любоў і адданасьць Радзіме, мужнасьць, адважнасьць, трываласьць і гатоўнасьць ахвяраваць сваім жыцьцём пры абароне яе інтарэсаў. У часы Рэвалюцыі Годнасьці за незалежнасьць Украіны аддалі свае жыцьці звыш ста чалавек, у тым ліку і беларус Міхаіл Жызьнеўскі. У знак пашаны іх назвалі героямі Нябеснай Сотні.

Подзьвіг Нябеснай Сотні з`яднаў і натхніў украінскі народ на барацьбу з расейскай агрэсіяй, і вораг быў прыпынены на ўсходзе краіны, а яго захопніцкі плян "Новороссия" праваліўся.

Дзякуючы падзеям на Украіне Захад, урэшце, убачыў за "дэмакратычнай" рыторыкай Расеі яе сапраўднае абліча - агрэсіўнай імпэрыі, якая парушыла важнейшыя міжнародныя нормы і правілы мірнага суіснаваньня дзяржаваў і сёньня з`яўляецца галоўнай небясьпекай міру на зямлі. Да Расеі былі прыняты адпаведныя палітычныя й эканамічныя захады, у выніку якіх сама яна апынулася ў цяжкім становішчы. У той жа час вайна з боку Украіны прызнана ўсім сьветам справядлівай. Сьвет салідарны з ёй і аказвае ўсялякую падтрымку. Гэта мацуе надзею на утаймаваньне агрэсара і канчатковую перамогу Рэвалюцыі Годнасці ва Украіне. Гэта будзе садзейнічаць і ўмацаваньню міру і стабільнасьці на постсавецкай прасторы, у Эўропе і ўсім сьвеце.

З першых дзён Рэвалюцыі Годнасьці і пад час расейскай інтэрвенцыі ва Украіну я ўважліва сачу за разьвіцьцём падзеяў і перажываю за украінцаў, разам з імі радуюся перамогам, спачуваю пры паразах і жадаю ім пасьпяхова абараніць сваю незалежнасьць.

***Зьміцер Якаўцаў***
*Беларусь*

# Узнагарода ад ЕС за фальсіфікацыю выбараў

Галава Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына ў сярэдзіне студзеня вярнулася з адпачынку ў Парыжы. Яе мара пабываць у Францыі і Італіі пасьпяхова зьдзейснілася дзякуючы таму, што Эўразьвяз прыпыніў на чатыры месяцы дзейнасьць "чорнага сьпісу", па якім некаторыя памагатыя Лукашэнкі лічыліся неўязднымі ў краіны Эўразьвязу.





# Беларуска — найлепшая оперная спявачка

Надзея Кучар перамагла ў фінале прэстыжнага брытанскага конкурсу BBC Cardiff Singer of the World. Сапрана Пермскага тэатра оперы і балета ім. Чайкоўскага стала найлепшай опернай спявачкай свету і атрымала галоўны прыз — 15 тысяч фунтаў. Салістка пермскага тэатра на конкурсе прэзентавала Беларусь.

Прэстыжны конкурс BBC Cardiff Singer праводзіцца з 1983 года раз у два гады ў сталіцы Валіі Кардыфе.

Надзея Кучар нарадзілася ў 1983 годзе ў Менску. З 2007 года спявачка жыве і працуе ў Пермі.

# Новы нумар часопіса "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ" (сьнежань 2015)

Рэдактар часопіса Пётра Мурзёнак з Атавы прадстаўляе ў прадмове асноўны зьмест выпуску, падаем інфармацыю ў скарочаным варыянце:

"12-ты сьнежанскі нумар часопіса пачынаецца артыкулам нашага сталага аўтара Аляксандра Кашо, прысвечанага крытыцы поглядаў, адмаўляючых існаванне беларускай і украінскай дзяржаў.

Большую частку нумара занялі матэрыялы дыскусіі "Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасць. 2015". Тэмай дыскусіі стала "СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ". Дыскусія па гэтай тэме дыктуецца неабходнасцю дапаўнення і абнаўлення падыходаў у рэалізацыі беларускай ідэі ў сувязі з новымі ўплывовымі фактарамі, знешнімі (глабалізацыя, лакальныя войны, міграцыя) і ўнутранымі (стан грамадства, адсутнасць адзінства ў беларускай эліце).

Часопіс прапанаваў сваю пляцоўку для абмеркавання і распрацоўкі праекта "Стратэгіі развіцця беларускай нацыі", якая, як думаецца, можа быць праграмай дзеянняў беларускай эліты на бліжэйшыя 20 год. Запрашэнне да ўдзелу ў праекце было разаслана шэрагу патэнцыйных экспертаў, якія з пункту гледжання часопіса маюць вялікі досвед у галіне ідэалагічных, культурных і маральных пытанняў развіцця нацыі. У гэтым нумары друкуюцца матэрыялы, прадстаўленыя Аленай Анісім, Аляксандрам Кашо, Пётрам Мурзёнкам, Алегам Трусавым і Ірынай Шумскай...

Натуральна, што часопіс "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ" запрашае іншых магчымых экспертаў далучацца да распрацоўкі "Стратэгіі развіцця беларускай нацыі". Не сакрэт, што распрацаваць такі праект будзе не вельмі проста па прычыне розных меркаванняў і падыходаў, але мы спадзяёмся, што зможам знайсці згоду на фінальнай стадыі бо ўпэўнены ў неабходнасці стварэння такой Стратэгіі. Стратэгія распрацоўваецца для ўсёй беларускай нацыі, а не пад канкрэтных асоб, партыі ці грамадскія рухі.

На падставе матэрыялаў прадстаўленых экспертамі будзе падрыхтаваны ўзгоднены варыянт Стратэгіі, які будзе вынесены на публічнае абмеркаванне ў СМІ тэрмінам на 2-3 месяцы. Распрацаваная стратэгія, у выпадку яе шырокага абмеркавання і распаўсюду, можа стаць праграмай дзеяння для ўсіх асоб, зацікаўленых у пытаннях развіцця нацыі...

У раздзеле "Юбілеі" змешчаны матэрыялы прысвечаныя 90-годдзю з дня нараджэння пісьменніка і грамадскага дзеяча Кастуся Акулы".

***Юбілейная дата была ўрачыста адзначаная беларусамі ў Канадзе, дзе Кастусь Акула жыў, памёр і пахаваны. Ягоны дзень народзінаў прыпадаў на 16 лістапада. Гэтаю лістападаўскаю датаю Кастусь Акула - змагар і патрыёт навечна застаўся зьвязаным з тымі памятнымі падзеямі ў жыцьці нашага народа, якія адзначаюцца штогод ў лістападзе — угодкі Слуцкага паўстаньня і сьвяты для беларусаў дзень памяці продкаў — Дзяды.***

Я зганьбаваную сьвятыню
як мог, што сілаў, аднаўляў,
на помач клікаў на чужыне,
шляхі і вехі устанаўляў.

І благаслаўлены Ўсявышні
нас верай, сілай надзяліў, –
народ наш на зямлі ня лішні,
ён будзе жыць, як хваль прыліў!

Таронта 1981 г.

К. Акула



# 90-я ўгодкі ад дня нараджэньня Кастуся Акулы

Менавіта з ушанаваньня памяці Кастуся Акулы пад час Дзядоў і пачалося сьвяткаваньне ягонага юбілею. У першы дзень лістапада сябры Згуртаваньня беларусаў Канады наведалі тарантаўскія могілкі Pine Hills, дзе пахаваны Кастусь Акула. Прыбралі ягоную магілу, аздобілі яе нацыянальнаю сымболікаю. Пасадзілі новыя кветкі — ірысы бессьмяротныя брунатначырвонага і белага колераў. Памянулі ўсіх Дзядоў — тых, што ляжаць у Канадзе, і тых, што засталіся ў Беларусі, і ўсіх, раскінутых па сьвеце.

А потым, ужо 16 лістапада, прыйшлі туды ізноў. Прынесьлі белыя і чырвоныя кветкі, сцягі, ручнікі, Пагоню — усё, што было для яго сьвятым у жыцьці. Чыталі ягоныя вершы. Дзяліліся ўспамінамі...

А потым беларуская грамада зрабіла маленькую пілігрымку па «акулаўскіх мясцінах» у Таронта. Дом, дзе ён жыў, куды прывёў жонку Надзею, дзе нарадзіліся й выраслі іхнія чацьвёра дзяцей — Алесь, Ганна, Альгерд, Юрась. А яшчэ — і гэта сталася сюрпрызам — Іра Варабей прывяла ўсіх у той парк, да тае лаўкі, куды аднойчы даўно прывёз яе дзядзька Кастусь, каб «пакарміць вавёрак», а насамрэч распавесці ёй, як тут, на гэтай лаўцы, 40 гадоў таму (цяпер ужо болей за 50) пісалася (набіралася на ручной друкарцы) трылогія «Гараватка». Зноў дзяліліся ўспамінамі, але збольшага пасядзелі моўчкі, як бы адгукаючыся на ягоныя колішнія запросіны: «... Калі, спадзяюся, некалі мае думкі выклічуць згадкі ці хваляваньні ў каторага нашага сурodзіча, дык запрашаю наведаць сьвятыню маеі адзіноты... Сядзьце побач, падумаем, паразважаем. З якога, дазвольце спытаць, вы году й каторага стагодзьдзя? Прызнаюся вам, люблю зьвяртацца да тых, што пасьля прыйдуць. Ці мала хто мяне, за маю пісаніну, дзіваком лічыць. Вы, пэўне ж, з адлегласці часу, інакш мяне разумееце. Апроч таго, у вас яшчэ адна выгада: праз мяне вы можаце зазірнуць у мой сьвет, а я ў ваш аніяк не магу, бо вы йдзеце пасьля мяне, значыцца ў нейкай меры будзеце й прадуктам такіх, ці падобных, як я. Таму, каб пазнаць сябе, вы будзеце намагацца пазнаць нас, папярэднікаў, так, як і мы намагаліся пазнаць сваіх прашчураў...» (Кастусь Акула )

У нядзелю, 22 лістапада, у гонар юбілею ў Беларускім цэнтры ў Таронта адбылася ўрачыстая акадэмія

Зала Беларускага цэнтру ў Таронта. На стале выстава твораў К. Акулы, ягоныя здымкі рознага веку

Распачаў урачыстасьці старшыня Галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў Канады Зьміцер Эльяшэвіч. Ён адзначыў ролю й месца юбіляра ў гісторыі беларускае паваеннае эміграцыі ў Канадзе. Пакінутае Кастусём Акулам у спадчыну сталася найістотнейшым унёскам у справу мацаваньня Беларушчыны не толькі ў Канадзе, але й ва ўсім Заходнім сьвеце. Кастусь Акула застаўся ў нашай памяці найперш як чалавек адданы сваёй Радзіме — Беларусі. Так, Канада стала яго домам, і ён пра тое неаднойчы казаў. Аднак уражвала ягоная любоў да Беларусі, цікавасьць да ўсяго, чым жыла Бацькаўшчына. Ён з велізарнаю павагаю ставіўся да беларускага слова, і вельмі цешыўся, калі яшчэ адна беларускамоўная асоба з найноўшае іміграцыйнае хвалі завітвала ў наш Беларускі цэнтр.

Алесь Кот распавёў пра перыяд канца 40-х гадоў мінулага стагодзьдзя, калі групаю беларусаў з ліку тых, што прыехалі па кантрактах у Канаду з Вялікае Брытаніі, сталася закладзеная першая беларуская нацыянальная арганізацыя ў Паўночнай Амерыцы, што атрымала назоў "Згуртаваньне беларусаў у Канадзе".

Расцярушаныя па велізарных абшарах Канады, беларусы напачатку не мелі аніякіх магчымасьцяў дзеля наладжваньня стасункаў паміж сабою. Былы жаўнер Другога корпусу арміі Андэрса, малады хлапец Кастусь Акула добраахвотна ўзяў на сябе цяжар скамунікавацца і сабраць разам колькісь сьведамых суродзічаў праз выданьне і рассылку першае ў Паўночнай Амерыцы беларускае газэты "Беларускі Эмігрант".

Друкаванае слова разыходзілася па сьвеце й атрымоўвала першыя водгукі, ўсё больш і больш прыцягваючы ўвагу беларускага люду, з-за вайны вымушана пакінуўшага Бацькаўшчыну. Так, 23 сакавіка 1948 г. рэдакцыя атрымала ліст з Гальштаду, Швецыя, у якім сказана й наступнае:

*"... Мая Вам вялікая ўдзячнасьць за тры экз. "Беларускага Эмігранта". Так склалася, што надовечы быў у нас праездам у Штокгольм Сп. Прэзідэнт М. Абрамчык. Вось-жа ён прачытаў рэдагаваны Вамі часапіс ад першае да астатняе балонкі і выказаўся дужа пахвальна як аб зьмесце "Беларускага Эмігранта", так і аб ягоным афармленьні. У гэтым лісьце на спробу шлю Вам 1 дал. Няхай расьце і развіваецца Ваш заакіянскі часапіс, — мы са Старога Сьвету будзем яму памоцным чым і як мага..."*

*Ваш А.О."*

Кастусю Акулу тады было 22 гады.

Прамоўца таксама прадэманстраваў прысутным у зале гістарычны Камунікат Часовае Галоўнае Управы закладваемае арганізацыі і агучыў першую тэзу гэтага дакумента:

*"... 28-га лістапада 1948 г. на Сходзе беларусаў у Таронта, скліканым Ініцыятыўнай Групай да арганізаваньня беларусаў у Канадзе, было пастаноўлена ўтварыць беларускую нацыянальную арганізацыю ў Канадзе п. наз. "Згуртаванне Беларусаў у Канадзе" /З.Б.К./. Выбрана спаміж сяброў сходу Часовая Галоўная Управа ў наступным складзе:*

*Старшыня — К. Акула*
*Заст. Стар. — Б. Аранскі*
*Сакратар — М. Пашкевіч*
*Скарбнік і рэф. дапамогі — Я. Пітушка ..."*

Увага аўдыторыі была засяроджана на тым, што словы "беларус", "беларускі" у адным толькі першым сказе гэтага асноватворчага дакумента ўзгадваюцца пяць разоў, а ва ўсім аднабачынкавым тэксце камунікату — васемнаццаць(!) разоў. Навошта? Каб ні ў каго не засталося сумненьняў, якога кшталту закладваецца арганізацыя. Не прыхільнікаў Беларушчыны, не сяброў Беларусі, не аматараў беларускага слова, але менавіта арганізацыя БЕЛАРУСАЎ. Бо калі прыцісне, і прыйдзецца сур'ёзна змагацца за сваё, за беларускае, то па вялікім рахунку і на "прыхільніка", і на "аматара", калі яны небеларускага паходжаньня, спадзяваньні кволыя.

Узгадвалася і яшчэ пра некаторыя тэмы, што сьціпла абмінаюцца ўвагаю падчас расповяду пра грамадзка-палітычную дзейнасьць Кастуся Акулы. А, менавіта, пра Камітэт сувязі былых беларускіх вэтэранаў, які ён ўзначальваў.

Першая сусьветная сустрэча беларускіх ветэранаў адбылася 17-18 жніўня 1974 году ў Манчэстэры, Вялікая Брытанія. Удзельнічалі ў ёй былыя беларускія вайскоўцы зь пяці краінаў: Аўстраліі, Вялікае Брытаніі, Іспаніі, Канады й Францыі. Мэтаю сустрэчы было сьвятка-




*Ля магілы справа налева: Старшыня Галоўнае ўправы ЗБК Зміцер Эльяшэвіч; сябра ЗБК Тацццяна Эльяшэвіч; сябра ЗБК Ірына Аксёнава, сябра ЗБК, гісторык Галіна Сяргеева, сябра ЗБК пісьменьніца Ірына Варабей, сябра ЗБК Алесь Кот*

ваньне 30-х угодкаў Беларускае краёвае абароны і ўшанаваньне памяці тых беларусаў, што змагаліся й аддалі сваё жыцьцё за волю Бацькаўшчыны. Згодна з рашэньнем удзельнікаў сустрэчы й пачалося выданьне часапісу беларускіх ветэранаў "Зважай", галоўным рэдактарам якога быў ізноў жа Кастусь Акула. Часапіс стаўся магутным ідэалагічным рупарам беларусаў замежжа, годным выданьнем, што прыйшло на зьмену газэце "Беларускі Эміґрант".

На працягу колькісь гадоў Кастусь Акула ўваходзіў у склад Рады БНР, з'яўляўся прадстаўніком Рады ў Канадзе.

Маючы на руках невылечна хворых жонку і трох дзяцей, працаваў на вытворчасьці, займаўся разнастайнай грамадзкай дзейнасьцю і пры ўсім гэтым знаходзіў магчымасьць пісаць, выдаваць і дапамагаць у гэтай справе іншым.

Калі ў 1988 годзе паўстаў Беларускі Народны Фронт, Згуртаваньне беларусаў Канады не вагалася з вызначэньнем сваё пазіцыі адносна дачыненьняў з новапаўсталай у Беларусі палітычнай сілай, але адразу ж зразумела, што тыя надзеі на вяртаньне Бацькаўшчынаю свае незалежнасьці, якія натхнялі беларускую эміграцыю ў першыя 10-15 паваенных гадоў, і сталіся страчанымі з пачаткам перыяду так званага мірнага суіснаваньня Захаду з Усходам, атрымоўваюць магутную падпітку, правы на новае жыцьцё. Навязваньне стасункаў з Фронтам, арганізаваньне візыту ў Канаду дэлегацыі БНФ на чале з ягоным старшынём Зянонам Пазьняком, кантакты паміж кіраўніцтвам абедзьвюх арганізацыяў, усебаковая дапамога першай рэальнай апазіцыйнай існуючай у Беларусі камуністычнай уладзе сілай. Кастусь Акула й тут праявіў сябе як адданы беларускі патрыёт, моцна дапамогшы Фронту матэрыяльна.

Далей Алесь Кот зачытаў успаміны вядомых асобаў з розных куткоў свету, адмыслова падрыхтаваныя імі да ўрачыстасьцяў у Канадзе з нагоды 90-годдзя народзінаў Кастуся Акулы: сярод іх — Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, Атава, Дырэктара Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў ЗША доктара Вітаўта Кіпеля, Нью-Ёрк, пісьменніка Уладзіміра Арлова, Менск, краязнаўцы Ігара Бараноўскага, Берасьце, Старшыні КХП-БНФ "Адраджэньне" Зянона Пазьняка, Варшава.

**З успамінаў Івонкі Сурвіллы:**

"..Усе мы ведаем пра талент гэтага вялікага беларускага патрыёта. Ведаем пра ягоныя, часам вельмі адважныя выступленьні, — як прыкладам у 1967 годзе на Сусьветнай выставе ў Манрэалі. ... Але, магчыма не ўсе ведаюць пра ягонцю шчодрасьць. А гэта — велізарная якасьць чалавека.

Кастусь ня меў машыны. Ня меў, бо вырашыў, што грошы, якія яна каштавала б, больш прыгадзіліся ў Беларусі. Кожны месяц высылаў частку свае пенсіі ў Беларусь. Адным памагаў, другім ахвяраваў на розныя ініцыятывы.

Кастусь Акула заўсёды быў часткаю нашае беларускае сям'і ў Канадзе. Калі жаніўся ягоны сын Юрка ў Фларыдзе, — і бацькоў яго ўжо не было між намі, — запрасіў мяне на вясельле, бо я была, як і кожны з нас, часткаю яго беларускае сям'і. Для мяне было гонарам прысутнічаць на вясельлі сына Кастуся".

**Уладзімер Арлоў, голас якога па тэлефоннай лініі праз узмацняльнік чула ўся заля Беларускага цэнтру:**

"... За акіянам Кастусь Акула рэдагаваў газэту «Беларускі эміґрант», часапіс беларускіх ветэранаў "Зважай", супрацоўнічаў са славутым парыжскім «Кантынентом».

У 1962-м пабачыў свет першы раман Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі», які ў 1994-м быў перавыдадзены ў Беларусі і некалькі месяцаў займаў найвышэйшыя радкі ў сьпісах айчынных бестсэлераў, адкуль потым перавандраваў у складзены «Нашай Нівай» пералік 100 найбольш папулярных беларускіх кнігаў XX стагоддзя. Пяру Кастуся Акулы належыць цэлая бібліятэка, дзе адметнае месца займае аўтабіяграфічная трылогія «Гаравітка».

Ён шчодра падтрымліваў нашы незалежныя выданьні. Любіў рабіць падарункі, прычым, гэта заўсёды




былі карысныя й патрэбныя рэчы. Чаравікі зь неверагодна трывалай валовай скуры, прывезеныя мне на пачатку 1990-х, я абуваю й цяпер..."

**З успамінаў Зянона Пазняка.**

**«Я ўдзячны Богу...»**

Я пазнаёміўся з Кастусём Акулам у красавіку 1991 года ў Таронта. Тады дэлегацыя дэпутацкай Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту, якую я ўзначальваў, на працягу месяца гасьцявала з палітычным візытам па запрашэньні беларускіх арганізацыяў у ЗША і Канадзе. Гэта быў першы візыт беларускай антыкамуністычнай апазыцыі за мяжу (яшчэ існаваў камуністычны Савецкі Саюз). Візыт быў важны для абодвух бакоў — для Фронта і для беларускай эміграцыі. Пра гэта было шмат тады напісана. Адтуль распачаліся сталыя кантакты Фронта з эміграцыяй.

Я застаў яшчэ шмат каго зь вядомых беларускіх афіцэраў, ваяроў з немцамі, удзельнікаў вялікіх бітваў. Некаторыя нават дэманстравалі выпраўку. Сяргей Гутырчык, напрыклад, на прыёме ў Беларускім цэнтры ў Саўт-Рывэры (ЗША) падышоў, стукнуў абцасамі па стойцы «зважай!», прадставіўся і «далажыў» пра сябе.

Потым была Канада. Першае маё ўражаньне ад Кастуся Акулы — гэта ваяр, жаўнер. Ён гаварыў гучна, наўпрост і пра галоўнае. А галоўнае — гэта Беларусь, незалежнасьць і свабода. Мы, дэпутаты, Фронта, хадзілі разам зь ім у ратушу да мэра Таронта з візытам. А перад ратушай на высокім флагштоку якраз вісеў Беларускі Бел-Чырвона-Белы сьцяг. Гэта спадар Кастусь пастараўся дамовіцца да 25-га Сакавіка. І мэр Таронта тады, дзякуючы Кастусю Акулу, быў добрым сябрам беларусаў Канады.

Я на той час не чытаў твораў




пісьменьніка (не існавала магчымасьці), але мы шмат пра што пасьпелі пагаварыць, не ўдаючыся ў сантымэнты. Увогуле, гэта мацнейшы пісьменьнік эміграцыі. Кастусь Акула здаваўся мне суровым, адкрытым і нават крыху грубаватым, але я адчуваў, што гэта чалавек-глыба, асоба моцнага духу.

Вярнуўшыся ў Менск, месяцы праз два-тры, я раптам атрымліваю пасылку з Канады. Напісана, што адпраўнік К. Акула. Зьдзіўлены, я адчыніў скрынку. Там былі крупы, цукар, мука, вермішэль, кансэрвы і ўсялякія прадукты. Тыя прадукты не былі на той час для мяне такімі патрэбнымі, але вось тады я зразумеў, што лёс пазнаёміў мяне з сапраўдным беларусам, з ваяром, гатовым моўчкі падставіць плячо. У той час сапраўды былі матэрыяльныя цяжкасьці, галаднаватыя для многіх гады ў Беларусі. Акула ведаў пра тое і ня толькі мне, шмат каму з фронтаўцаў па-сялянску пасылаў пасылкі з прадуктамі, нібы гэта былі не 90-я, а цяжкія 40-я. Маўляў, трымайцеся, хлопцы!

Я чуў ад дасьведчаных людзей пра цяжкае сямейнае становішча Акулы (хворая жонка і дзеці). Казалі, што ягоны быт — гэта пакутлівае і вялікае выпрабаваньне.

Але Акула маўчаў. Ніхто не павінен быў ведаць пра яго бяду.

Бывала вечарам спадар Кастусь не вытрымліваў напружаньня, піў гарэлку. І тады яму хацелася з кімсьці пагаварыць, хоць пра што. Ён набіраў нумар тэлефона і званіў. А была ўжо ноч.

Я ў дзьве гадзіны ночы, тады ў эміграцыі ў 90-х, амаль ніколі яшчэ ня спаў. Трэба было шмат пісаць, адсылаць матэр'ялы праз факс, гаварыць па тэлефоне. У Менску якраз была раніца.

Часам гучаў званок, і ў слухаўцы — знаёмы голас Кастуся Акулы. Ведаючы, што гаворка будзе доўгай, я клаўся на ложак, прыціскаў вухам слухаўку і слухаў, устаўляючы рэплікі, бывала да раніцы.

Справа ня ў тым, што я ўсё разумеў, што адбываецца з маім субяседнікам, мне цікава было таксама яго паслухаць. З усяго, што казаў Кастусь Акула, мне найбольш запомніліся (і ўразілі) два ягоныя выказваньні.

— Ведаеш, я шчасьлівы чалавек, я прайшоў вайну, быў пад Монтэ-Касына. Колькі маіх сяброў пабіла, пакалечыла, а мяне хоць бы драпнула. Ніколі нават ня раніла. Як я ўдзячны Богу і хачу сваім жыцьцём аддзячыць Яму.

І другое.

— Ведаеш, каб ты ўбачыў як я жыву..., ня ведаю, пэўна мала б хто тое вытрымаў. Але я так ўдзячны Богу за гэтае жыцьцё. Як Бог дае, то, відаць, для мяне гэтак і трэба быць, так і добра. Я ж так маліўся на вайне, каб застацца жыць..., жыць для Беларусі.

Аднойчы спадар Кастусь, відаць, стаміўся гаварыць і замаўчаў. Пасьля доўгай маўчанкі голас:

— Зянон, ты — чалавек. Дзякуй табе, што ты мяне выслухаў. Дзякуй табе.

Мяне тое скаланула. Як важна было для яго выгаварыцца, і каб нехта яго пачуў. Але ніколі ён не казаў пра сваю бяду, не жаліўся, не бедаваў. Ён нішчым словамі ворагаў Беларусі. Яму трэба было вяваць.

**З успамінаў доктара Вітаўта Кіпеля:**

"... Кастусь Акула актыўна папулярызаваў кнігі БІНІМу ў Паўночнай Амерыцы. Майстраваў іх выставы ў Альберце, Ванкуверы (Канада), Чыкага, Дэтройце (ЗША). Лётаў, ездзіў па Паўночнай Амерыцы за свае грошы. Гатэлі, харчаваньне ў дарозе. Нятанная грамадская дзейнасць.

*Заканчэньне на 8-й бачыне*

*Заканчэньне з 7-й бачыны*



Падчас працы над "Змагарнымі дарогамі" К. Акула сьпецыяльна прыязджаў у Нью-Ёрк прачытваць даклады пра ходу працы, дыскутаваў з Францішакам Кушалем наконт эпізодаў кнігі пра Беларускую краёвую абарону, афіцэрскую школу БКА.

К. Акулам падрыхтавана і напалову прафінансавана ($4,000 з ягонае кішэні) рэпрадукцыя "Псалтыра" Францыска Скарыны, выданага ў Вільні ў 1522 г. І навогуле ягонаю традыцыяй стала дапамагаць з рэалізацыяй тых выдавецкіх праектаў БІНІМу, у якіх ён актыўна ўдзельнічаў. Звычайна 50% выдаткаў на тыя праекты ён пакрываў сам.

**З успамінаў краязнаўцы Ігара Бараноўскага з Берасьця:**

"... Мы з сябрамі навязалі кантакты з канадыйскімі беларусамі, абменьваліся інфармацыяй, друкаванымі выданнямі. Сярод іншых мы пачалі атрымліваць з Канады і часапіс беларускіх ветэранаў «Зважай», рэдактарам якога быў Кастусь Акула. З часам ён дасылаў нам і свае кнігі «Змагарныя дарогі», «Гараватка», «За волю», напісаны пааенгельску раман «Tomorrow is Yesterday» («Заўтра — гэта ўчора»). Надзвычай цікава было чытаць аўтабіяграфічны раман Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі», бо апісанае ў ім сталася абсалютна новым і невядомым для большасьці з нас. Гэтая кніга, як і іншыя ягоныя творы, хадзіла па руках. Асабліва цікавілася моладзь. Таму потым папрасілі Кастуся Акулу, каб ён, па магчымасьці, даслаў яшчэ адзін камплект сваіх кніг — адмыслова для надзвычайна папулярнае ў тыя часы бібліятэчкі ў сядзібе Берасьцейскай абласной Рады БНФ, каб больш людзей змаглі пазнаёміцца з ягонымі творамі..."

Перад аўдыторыяй з прамоваю выступіла ганаровы сябра Згуртаваньня Беларусаў Канады пісьменьніца Вольга Іпатава.

"... Сёньня, праз колькі гадоў, якія прайшлі з дня сьмерці Кастуся Акулы, можна з упэўненасьцю пацьвердзіць, што ён – найбуйнейшы пісьменьнік беларускага замежжа. Пра гэта яшчэ амаль чвэрткку стагодзьдзя таму ўпершыню заявіў дасьледчык Мікола Мішчанчук у сваёй кнізе «Літаратура беларускага замежжа», якая выйшла пад эгідай Міністэрства адукацыі і навукі і Педагагічнага ўнівэрсітэта імя Максіма Танка ў 1993 годзе.

... Мабыць, ні адзін з пісьменьнікаў замежжа не падвяргаўся праз усе свае гады такому цкаваньню са сваёй Радзімы, як гэты чалавек, які яшчэ ў маладосьці прысягнуў служыць Беларусі і слова гэтае стрымаў. Яго зьдзекліва высмейвалі, пастаянна аблівалі брудам, шантажавалі родных, што засталіся на Глыбоччыне.

Яго закляймілі некалі (а менавіта ў «Голасе Радзімы», №42 за 1966 год), найлепшыя і на той, і на гэты час беларускія пісьменнікі – ягоныя, можна сказаць, калегі. Горка і балюча і сёння чытаць словы, некалі, вядома ж, прадыктаваныя пісьменьнікам зьверху і адрасаваныя не толькі К. Акулу, але і Ст. Станкевічу, Р. Крушыну, Ю.Віцьбічу: «Не вам і не вашым хаўруснікам гаварыць пра літаратуру, якая сьцвярджае вялікія ідэі сапраўднай чалавечнасці, не вам гаварыць пра волю і справядлівасьць. Прадаўшыся адзін раз, цяжка, відаць, утрымацца, каб не прадацца і другі». Але як крыўдна, як невыносна цяжка было, думаецца, чытаць іх калісьці самому Кастусю Акулу, які ў той час працаваў рабочым і творы свае пісаў ў нешматлікія вольныя хвіліны.

Але час мяняецца і пацыху ставіць усё на свае месцы. Рада беларускіх пісьменнікаў абрала К. Акулу ( а таксама В. Кіпеля і Я. Запрудніка) сваімі ганаровымі сябрамі, кнігі нашых замежных калег і паплечнікаў па літаратуры выходзяць нават у сённяшняй Беларусі, хай сабе і не ў дзяржаўных выдавецтвах.



У літаратуры ёсць свая асаблівасьць – творы перажываюць свайго стваральніка, жывуць і пасьля ягонай смерці.

Кастусь Акула паўстае ў нашай памяці як жывы, дзейсны пісьменнік. Яго творы перачытваеш, нанова перажываючы разам з імі нялёгкія шляхі беларуса, што апынуўся на чужыне і не зламаўся, не забыўся на роднае, больш таго – акумуляваў ў сабе вопыт свайго часу...»

Гаспадыня канадыйскае дызайнерскае кампаніі "Spirit of Belarus" пісьменьніца Ірына Варабей прачытала сваё эсэ "Кастусь Акула — Беларус, Жаўнер, Пісьменьнік, Змагар...", напісанае яшчэ ў лютым 2008 года адмыслова на саракавіны па Кастусю Акулу. У ім, у прыватнасьці, было сказаным наступнае:

«... Ён хацеў ваяваць і быў гатовы аддаць жыццё за свой край і ягоную гісторыю, але апынуўся далёка ад яго. Ён быў жаўнерам, і хвалі вайны матлялі яго без ягонага дазволу.

І прышоў той дзень. І надышла тая ноч ў далёкай Італіі, калі ў адзіноце, у казарме польскага корпусу брытанскай арміі, куды расфармавалі кадэтаў афіцэрскае школы Беларускае краёвае абароны, — залічылі туды як палякаў, бо «няма» такое краіны Беларусь, і «няма» такога народу беларусы — пасталелы не па гадох юнак прысягаў шэптам сваёй радзіме — Беларусі.

«Імем зямлі сваёй, маткі і ўсімі святымі прысягаю выкарыстаць рэшту жыцця свайго, не пашкадаваць сілаў, каб у будучыні служыць адно народу свайму, пакрыўджанаму й паняволенаму...»

Ён зразумеў, што змагацца за свой край можна і за краем яго.

Будучыня. Няведамая далячынь...

«Час такі — ліха на яго!» Ніці якога лёсу спрадаюць табе Судзяніцы?..

«Ці паверыш. Бабка адна была наваражыла мне, што пражыву жыццё вельмі доўгае, але турбулентнае...» Бабка ні ў чым не памылілася. ... Ён быў абраны, каб зрабіць тое, што зрабіў, і ніхто іншы гэтага не зрабіў. Цяпер ужо няведама, ці ён заслужыў абранасьць, ці быў ад роду наканаваны служыць. Шляхі Найвышэйшага нам няведамыя. Судзяніцы аберагалі ягонае жыцьцё ў самых неверагодных абставінах. Ён дакладна ведаў, для чаго. Каб выканаць сваё жыццёвае прызначэньне: пакінуць гісторыі й літаратуры адзіны, маштабу эпапэі, твор, што занатуе пакутны шлях на захад Беларускае краёвае абароны і ўсяго вызвольніцкага руху трагічных 40-х. І яшчэ — гісторыю Беларусі першае паловы XX ст., што перажыла тры акупацыі, зрабіўшыся полем брані паміж двума гігнцкімі драпежнікамі.

Прысязе, дадзенай у адзіноце ў тую гарачую італьянскую ноч у польскай казарме, застаўся верным да канца свайго доўгага і турбулентнага жыцця, апошняй думкай якога было — Беларусь..."

Скончыла сваю прамову Ірына Варабей словамі, што Кастусь Акула быў для яе не проста "дзядзькам Кастусём", але нават "бацькам", што ён стаўся першым чалавекам, хто сустрэў яе ў Беларускім цэнтры ў Таронта, а яна сталася апошняй з беларусаў, каго ён бачыў і з кім размаўляў у сваім жыцьці.

Потым прамоўца пракаментавала змайстраванае ёю слайд-шоу "Па Акулаўскіх мясцінах" і некаторыя рэдкія здымкі Кастуся Акулы са свайго прыватнага архіву.

Напрыканцы імпрэзы ейныя ўдзельнікі паглядзелі відэастужку пра дзядзьку Кастуся з архіву Вольгі Іпатавай. Расчуліліся...

Сярод ягоных партрэтаў рознага веку, зноўку патрымалі, пагарталі ягоныя кнігі і цэльныя падшыўкі ягонай газеты "Беларускі Эмігрант", часапісу «Зважай». Хтосьці набыў перакладзены з ангельскай мовы на беларускую Ірынай Варабей і выдадзены ў 2008 годзе ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" раман К. Акулы "Заўтра ёсць учора"...

29 лістапага, падчас адзначэння Дня Герояў, у Беларускім цэнтры ізноў было ўзгадана імя Кастуся Акулы, які праз свае выданні неаднаразова годна выказваўся пра случчакоў, што паўсталі на сьмяротны бой з расейскаю камуністычнаю навалаю, неаднаразова сам асабіста стаяў у ганаровай варце са сцяганым бел-чырвона-белым сьцягам падчас адзначэння Слуцкага Збройнага Чыну. З лістападаўскага 1977 года выпуску рэдагаванага Кастусём Акулам часапісу "Зважай" сталіся агучанымі наступныя радкі:

"... У кожны лістападаўскі Дзень Герояў мы, на эміграцыі, чытаем сімвалічную лісту нацыянальных Герояў. Іх шмат і, безумоўна, усіх згадаць нельга. Але ў сваіх малітвах да Бога і ў гутарках на ўрачыстасцях мы думаем пра ўсіх. Яны — частка нашае вялікае, змагарнае гісторыі, непакорнага народнага духу і вечна жыць будуць з намі. Мы ведаем, што народ, які змог даць такіх выдатных людзей, ніколі не загіне, ён здабудзе сабе волю».

У звароце да суродічаў з нагоды 95-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла казала: "... Ісці змагацца ім [случчакам] было цяжка — як гэта было б сёньня вам. Але яны ўсё ж пайшлі..."

20-гадоваму кадэту польскае афіцэрскае школы ў Вялікай Брытаніі Кастусю Акулу таксама было няпроста прыняць рашэнне ў той час, калі эміграцыйная польская ўлада малявала яму, грамадзяніну Польшчы, ружовыя жыццёвыя перспектывы, але з перадумоваю пайсці пад касьцёл і запісацца палякам. Беларус Кастусь застаўся беларусам, абраўшы сваім шляхам змаганне за Свой Край — Беларусь і паклаўшы на алтар таго змагання ўсё сваё жыццё.

Час ідзе. Але разам з намі, побач, заўсёды наш Кастусь Акула. Мы сумуем па ім...

***Алесь Кот,***
*Канада*



# Бел-чырвона-белы сцяг у Новай Зеландыі

Журналіст і грамадзкі актывіст Франак Вячорка у сваіх вандроўках па сьвеце дабраўся і да Новай Зеландыі. Ён не быў там першым беларусам, бо вядома, што пасьля вайны туды пераехала група беларускіх жанчын з дзецьмі, якіх пагадзіліся прыняць улады гэтай краіны, аднак пазьней яны неяк страціліся з-пад увагі і ніяк не абазначылі там беларускую прысутнасьць. У сучасную ў Новую Зеландыю трапілі асобныя эмігранты з Беларусі і адзін з іх — Максім Гарданаў з Гародні даваў аб сабе знаць, як сьвядомы беларус.



Франак не мог не наведаць у Новай Зеландыі мясьціны, які ў цэлым сьвеце знакамітыя тым, што там здымаліся фільмы пра хабітаў. Для здымкаў "Уладара Пярсьцёнкаў" там было адмыслова пабудавана паселішча хабітаў. Пасёлак хабітаў Шыр быў пабудаваны на тэрыторыі прыватнай авечкагадоўчай фермы на выспе Матамата. Ужо ў сакавіку 1999 года рэжысёр Пітэр Джэксан пачаў рыхтаваць Хабітон, каб пачаць здымкі да канца года. Цяпер Хабітон — мясцовая славутасць, якую наведваюць турысты з усяго сьвету.

I вось у гэтым паселішчы Франак знайшоў нечакана і беларускі сьлед, і не абы які, кшталту "Тут быў Пятрусь", а сапраўдны бел-чырвона-белы сьцяг і нехта ж туды яго завёз.

"Магчыма, гэта беларускія найміты банды Фрадо Торбінса, вядомага за мяжой як Торбінс», - пажартаваў Франак. Вось дык нечаканая падтрымка нашай беларускай справе.

Не менш цікавым аказалася і другое адкрыцьцё сп. Вячоркі ў Новай Зеландыі. Ён пабачыў у адной з тамтэйшых крам селядзец ад «Маціас»!

«Зайшоў у супермаркет у Велінгтане і зразумеў, што мы, беларусы, не прападзём. Калі мы ўмеем прадаваць марскую рыбу самай далёкай ад нас марской дзяржаве за 17 тысяч кіламетраў, то дакладна ў нашай нацыі вялікая будучыня», — напісаў Франак Вячорка ў сваім акаўнце ў «ВКонтакте».




# БЕТОН

Аднойчы польскія сябры зладзілі нам экскурсію да Wolfschanze, "Воўчага логава" Гітлера. Уразіла якасць бетону, з якога быў адліты гэты бункер, — здавалася, яго не зможа пабурыць ніякая сіла. Цьвёрды, як дыямент, гладкі, бы адпаліраваны, нават лішайнікі і мох да яго не прыставалі. Фюрэру, праўда, гэта не дапамагло.

А мне падумалася — што на сьвеце ёсць рэчы, яшчэ больш трывалыя, чым гэты бетон. Адна з іх — чалавечае глупства, супраць якога здаецца, няма сродкаў. Напрыклад, колькі ўжо пісана-перапісана пра астралогію — і што на справе не існуе ніякіх сузор'яў, такімі яны выглядаюць толькі з Зямлі, і што ніякіх дзеяньняў на людзкія лёсы яны не аказваюць. Але, шмат хто верыць.

А колькі яшчэ прыкладаў веры ў самыя неверагодныя глупствы?

Яскравым прыкладам з'яўляецца віленская гісторыя з "дамкамі", якая даўно ўжо абрыдла, навязла ў зубах, але ўсё ніяк не канчаецца. Я доўга думаў — якія ж патаемныя пружыны, матывы, выклікалі гэты канфлікт. Адзін з асноўных, калі не галоўны, — зайздрасьць шэрай бяздарнай молі да асобы шырокай, гасьцiннай, пасьпяховай. Гэтых якасьцяў былому старшыні ТБК Хведару Нюньку не даравалі ніколі. А грамада ўсё гэта ўспрынядла бескрытычна таму, што большасьць людзей вельмі неахвотна думае, супастаўляе факты.

Паспрабуйма ж "уключыць галаву" і задаць простыя пытаньні тым, хто ўсю гэту кашу заварыў.

Яны цьвердзяць, што беларусам належалі ўсе тры дамкі. Паверым, хоць гэта й цяжкавата. У свой час Сойм Літвы прыняў закон аб вяртаньні ўласнасьці нашчадкам тых, у каго яна была канфіскавана пры Саветах. Бацькі вядомага віленскага паэта Рамуальда Мячкоўскага мелі некалькі гектараў зямлі ў вёсцы Пашылайчы, дзе цяпер збудаваны аднайменны мікрараён. Пан Рамуальд з братам сем гадоў судзіўся за вяртаньне надзелу. Урэшце ім выдзелілі 1 (адзін!) квадратны метр зямлі на месцы былой гаспадаркі...

А тут беларусам адным росчыркам пяра, без усялякіх судоў, і нават без адпаведнага закону, перадаюць не проста пустую дзялку ў цэнтры горада, а разам з забудовамі, у якіх жывуць людзі! Што ж гэта за такія беларусалюбы прабраліся ў віленскія ўлады?

Добра, аддалі дык аддалі. Паверым. Але які ж тады стаўся статус жыхароў? Або ім дзяржава была абавязана выдзеліць новыя кватэры, або яны павінны былі заключыць дамовы аб арэндзе з новым уласнікам — Таварыствам беларускай культуры. Але ж нічога падобнага й блізка не было. Людзі жылі сабе, як жылі. І настолькі не падазравалі, што іх дамы "належаць" нейкім беларусам, што ў адным з іх жыхары зрабілі рамонт, і не абы які, а капітальны, замянілі дах, выбраўшы найбольш дарагі на той час варыянт з фінскай металачарапіцай. Стаў бы хтось так рупіцца чужой маёмасцю? І ці ж не дзіўна, што арганізацыя, якая здае жыхарам паўтара дома, не мае грошай памяняць унітаз ва ўласным памяшканні?

Ідзём далей. Выказваецца думка, як трэба было вырашыць усе праблемы — прадаць маёмасць на Жыгіманту за рэальны кошт, і гэтых грошай хапіла б не на адну кватэру, як на Бролю, а прынамсі на тры такія.

Так здарылася, што мы пра тагачаснае становішча на рынку нерухомасьці ведаем з першых рук. Мы, дзьве сям'і, жылі тады ў двухпакаёвай кватэры ў мікраёне Шашкіне.

Пяць чалавек на такой прасторы — цесна. Каб разьмяняць на дзве аднапакаёўкі, сродкаў не было, даплата патрабавалася немалая. І ўзнікла ідэя — прадаць кватэру, і на гэтыя грошы купіць дамок, хай сабе без выгодаў, але прастарнейшы. Як шукалі — асобная гісторыя, якую цікава апавядаць пры чарцы, а тут шкода месца. Былі ўсялякія прыгоды, але ўражвала мноства варыянтаў. Каб не займаць шмат часу, адразу скажу, што ў 1997 годзе можна было прыдбаць цэлы дамок за двухпакаёвую кватэру ў блочным доме, ад якога 40 хвілін язды да цэнтру. Прыдбалі ж мы за кошт сваёй кватэры ў раёне Павільніс, што 7 хвілін ад Вострай Брамы, двухпавярховы цагляны дом (па два пакоі з кухняй на кожным паверсе), які стаяў на дзялцы, дзе быў мураваны гараж, велізарная цяпліца з металаканструкцый, сад. Вядома ж, прыбіральня была тыпу "С", і на вуліцы. А грошай хапіла яшчэ й на тое, каб купіць суседнюю дзялку з садам і маленькім дамком!

Такія тады былі суадносіны коштаў прыватных дамоў і кватэраў. Фантастыка, але так было. Тое, што можна было азалаціцца, прадаўшы нежылую руіну, хай сабе і ў самым цэнтры, — мякка кажучы, хворая фантазія. Такіх "дамкоў", і ў значна лепшым стане ў Вільні тады было, і ёсць дагэтуль, безьліч. Гэта цяпер, калі разгарнулася масавая будоўля, на авансцэну выйшлі буйныя будаўнічыя фірмы, што распараджаюцца салідными капіталамі, кошты на дзялкі ("дамкі" іх не цікавяць) узляцелі пад нябёсы. Дзялку з дамком у Павільнісе мы купілі за 3000 даляраў, сёння ідэнтычная суседняя каштуе ўжо 60 000 "зялёных"!

Але што, ТБК мела сядзець на вуліцы і чакаць, пакуль вырастуць кошты? Ды за гэты час ці не трэць старэйшых сяброў перабралася ў іншыя, вечныя, кватэры...

Цяпер давайце зірнём, як жа распарадзілася маёмасцю на вул. Бролю новая, высокамаральная Рада ТБК. Найперш яны выкінулі з статуту арганізацыі пункт аб забароне камерцыйнай дзейнасці. І пераўтварылі сядзібу ТБК у нешта сярэдняе паміж савецкай камуналкай і горкаўскай начлежкай. Усюды, дзе толькі можна, стаяць ложкі. Вядома ж, ніякіх імпрэзаў тут больш не адбываецца, шараговым сябрам ТБК рабіць тут няма чаго. Але й жадаючых жыць ва ўмовах такой казармы няшмат. Новых гаспадароў можна зразумець — у Вільні за камунальныя паслугі ў чатырохпакаёвай кватэры, асабліва халоднай зімой, прыходзяць такія рахункі, што валасы ўстаюць дыбам. Як яны выкручацца з аплатай — пытанне. Але ж гэтыя людзі пераконваюць нас, што, маючы гэткія самыя ўмовы, але яшчэ й ладзячы сустрэчы, імпрэзы, многія са славутай "чаркай і шкваркай", перадаўшы маёмасць без адзінага цэнта доўгу, былы старшыня здолеў яшчэ й нейкім чынам на гэтай справе зарабіць для ўласнай кішэні больш як 32 000 эўра!

Вы ўсё яшчэ ў гэта верыце?

***Алег Аблажэй***
*Вільня*
*18.01.2016 г.*



# Набажэнствы ў Паўдзённай Аўстраліі

У нядзелю 29 лістапада 2015 у царкве Сьв. Апосталаў Пётры і Паўла ў г. Адэлайда (штат Паўдзённая Аўстралія) адбылося набажэнства, якое адслужыў пад час свайго візыту да вернікаў у Аўстраліі Архіяпіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Уладыка Сьвятаслаў. Пры канцы службы, пасьля сьпеву малітвы "Магутны Божа" і Мнагалецьця ўсім прысутным, Уладыка прывітаў вернікаў беларускае Парафіі і таксама сьвятара й парафіянаў украінскае Парафіі Сьв. ап. Андрэя, якія моляцца разам у беларускім храме ў Адэлайдзе, і раздаў усім на памяць іконкі Сьв. Еўфрасіньні Полацкае.

Пасьля набажэнства, у парафіяльнай залі адбыўся абед, падрыхтаваны сястрынствам беларускае Парафіі. Старшыня Парафіяльнае Рады спадар Мікалай Кандрусік прывітаў Уладыку Сьвятаслава, які ўжо трэці раз наведаў Аўстралійскія Парафіі БАПЦ. Таксама прысутныя прасьпявалі беларускі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." і "Сьпі пад курганам герояў..." у памяць 95-х гадавінаў пачатку "Слуцкага Збройнага чыну".



*Дзеці сьвятара а.Міхала Шчурка: Марыя, Вера, Міхал і Юры*



*Парафіяне Мікалай і Галіна Кандрусікі*

Перад гэтым арх. Сьвятаслаў наведаў магілкі ў г. Адэлайдзе, дзе адслужыў Паніхіды на магілах супачылых архіяпіскапа Сяргея Ахатэнкі (+1971), парафіяльных сьвятароў – а. Міхала Шчурко (+1972), а. Яўгена Сітніка (+1986), а. Міхала Бурноса (+2009), і супачылых парафіянаў.

Таксама арх. Сьвятаслаў наведаў хворых парафіянаў у шпіталі.



*арх. Сьвятаслаў і маленькая верніца Надзя - праўнучка першага сьвятара Парафіі а.Міхала Шчурко*

# СЫДНЭЙ. АДЗІН ЛІСТАПАДАЎСКІ ДЗЕНЬ З МАЙГО ЖЫЦЬЦЯ

Сеньня я прачнулася рана і ў надзвычай добрым настроі.

Паглядзела ў вакно. На вуліцы прыгожая аўстралійская вясна. Ярка сьвеціць сонца. І ўсе яшчэ цьвіце джакаранда. З вышыні восьмага паверху, дзе я жыву, гэтыя вялікія разлапістыя дрэвы, якія заўседы цьвітуць у гэты час, колерам нашага бэзу, зьверху падаюцца цэлымі каляровымі палямі.

Паснедаўшы і па-сьвяточнаму апрануўшыся, я іду на станцыю, адкуль на цягніку я адпраўляюся на другі канец Сыднэя. Сеньня я прадбачу прыемны дзень – сустрэчу з сябрамі-беларусамі Сыднэю.

Я прыехала ў Fairfield загадзя. Іду не спяшаючыся. Раней у гэтым раёне я жыла не адзін год. Тут быў наш беларускі клюб. Але, многае зьмянілася з тых часоў. Таму наша невялікая беларуская грамада часамі арандуе прыцаркоўную залю расейскай праваслаўнай царквы. Тут мы праводзім нашыя сустрэчы і сьвяткаваньні.

Я некалькі месяцаў адсутнічала па прычыне маей паездкі ў ЗША да маей малодшай дачкі, дзе чакаў мяне мой маленькі сямімесячны ўнучак Мацвей.

Вось я і на месцы. Са мною цепла ўсе вітаюцца, з цікавасьцю распытваюць, як я правяла час, што пабачыла ў другой краіне.

Нарэшце ўсе сабраліся. Сеньня ў нас асаблівая дата: мы сьвяткуем Дзень Слуцкага збройнага чыну. Мне, як адказнай за культурна-сацыяльнае жыцьце нашай беларускай грамады, было даручана зрабіць даклад. Мы прыпомнілі гістарычныя зьвесткі, якія датычацца гэтых падзеяў.

Потым мелі сьвяточны абед. Нашыя добрыя гаспадыні Валянціна Плахоцкая і Жана Ананьева, прыгатавалі смачныя беларускія стравы. Усе было добра арганізавана ў гэтым сьвяткаваньні. Наша старшыня Антаніна Дзядуля пастаралася для гэтага. Ей дапамагалі таксама і сябры нашага камітэту Зіна і Валянцін Стукач, Ванда Плахоцкая. Вельмі прыемна вось так сустракацца са сваімі людзьмі. Усе гамоняць, вяселыя і задаволеныя, з усьмешкамі на тварах, абменьваюцца навінамі. Я раблю фотаздымак. Час праляцеу хутка. Мы раз'язджаемся ў розныя бакі Сыднэю з надзеяй, што хутка, пры нагодзе, зноў сустрэнемся.



Я не спяшаюся дадому. Вырашыла па дарозе зайсьці ў аптэку, куды я часам зьвяртаюся. Я падыходжу і бачу, што там таксама нейкае сьвяткаваньне. Зайшла, бачу, што аптэка значна пашырылася, стала больш утульнай, з вялікім асартыментам розных неабходных рэчаў. Мяне сустракае ветлівая, з цеплай усьмешкай служачая – маладая прыгожая дзяўчына. Мяне тут ведаюць, як сваю кліентку. А сеньня тут сьвяткуюць адкрыцьце адноўленай аптэкі. Служачая, прыняўшы мой заказ, запрашае мяне ў сьвяточна ўбраны куток залі, дзе кожнага сёньняшняга кліента чакае мноства розных пачастункаў. Побач стаіць прыгожы велізарны торт – больш як на метр даўжынёю. Я не вытрымала, зрабіла фота маладой дзяўчыны-служачай на фоне гэтага гасьціннага кутка. Мяне не адпускаюць без гасьцінцаў і падарунка. Прыемна.

Нарэшце, я сяджу ў двухпавярховым камфартабельным вагоне Сыднэйскага метрапалітэна, еду дадому. Гляджу з вакна, па ходу цягніка, і бачу, як прадаўжае будавацца і яшчэ больш прыгажэць наш горад. Колькі тут паркаў і сквераў, колькі прыгожых месцаў адпачынку каля вады – уздоўж узбярэжжа Ціхага акіяна, дзе і раскінуўся гэты цудоўны горад. У маім вагоне я чую размовы людзей на розных мовах, едуць сямейныя людзі, з малымі дзецьмі, моладзь. Тут пачуваецца расслабленасьць выхаднога дня, і весялосьць, і добры настрой, і сьвята жыцця. Мой пазітыўны эмацыянальны стан цалкам знаходзіцца ў гармоніі з гэтымі выпадковымі спадарожнікамі.

Але, раптам мне прыгадаўся нядаўні выпадак.

Два дні таму я была ў басейне. Было горача. Таму бальшыня людзей прыйшлі, каб паплаваць звонку - на сьвежым паветры. Я не ёсьць добрым плыўцом, таму я прыстроілася на той паласе, дзе вучацца плаваць, дзе гуляюць дзеці з бацькамі. Навокал сьмех, гул, усплёскі вады. З часам я запрыкмеціла, што збоку, над вадою, стаіць адзін чалавек, з сумнымі вачыма. Ён у некага пільна ўглядаўся. Вось яго твар прасьвятлеў, ен ухвальна памахаў камусьці рукою. Я крочу па вадзе і наперадзе бачу падлетка – хлопчыкадауна. Ен спрабуе сам праплыць некалькі метраў. Атрымалася. Вось і радуецца гэтаму маленькаму посьпеху ягоны тата .

Трошку падплыўшы далей, я бачу ў вадзе, амаль па шыю, стаяць двое маладых мужчын. Адзін – хударлявы, а другі – нашмат вышэйшы, з вады праглядаюць контуры ягоных шырокіх плеч. Яны аб нечым вядуць легкую дыскусую і голасна сьмяюцца, шуткуюць. Так і стаяць у вадзе. Пра сябе я нават абурылася, чаму яны, такія маладыя, не плаваюць, а нават заважаюць рухацца і старым, і малым.

Пры выхадзе з басейна, перад сабою я зноў бачу гэтых дваіх. Я падняла вочы і абамлела: адзін з іх, той – высокі, ён быу зусім без рук... Толькі шырокія багатырскія плечы...

Быць міласэрднымі і ўважлівымі да людзей мы вучымся цэлае жыцьцё, але часта мы не можам адразу убачыць і зразумець, што настрой і самаадчуваньне чалавека – гэта розныя рэчы. І, ня гледзячы ні на што, кожны хоча быць шчасьлівым. І ў кожнага чалавека ёсьць сваё разуменьне шчасьця. Камусьці для поўнага шчасьця хочацца брыльянтаў, камусьці дарагую машыну, яхту ...

А я, перажыўшы многае на сваім вяку, ужо даўно ведаю, што самае галоўнае шчасьце – быць здаровым.

Складаная і супярэчлівая штука – жыцьцё.

Кожнаму даводзіцца насіць толькі свае боты і крочыць толькі сваей жыцьцёвай сцяжынай. Трэба навучыцца прымаць гэта пазытыўна і радавацца кожнаму новаму дню.

***Яўгенія Супрунюк***
*Сыднэй, Аўстралія*

# Вопыт білінгвічнага выхаваньня



Калі нарадзілася дачка, у нашай сям'і паўстала моўнае пытанне. Ангельскую мову дзіця набярэ ад асяроддзя і ў школе, і, напэўна, будзе на ёй найлепш размаўляць. Але і муж, і я хацелі перадаць сваю спадчыну, адчыніць новы свет, палепшыць будучыя адносіны з бябулямі і дзядулямі. Справа ў тым, што муж і я паходзім з розных краінаў і абодва з'яўляемся білінгвістамі. Такім чынам, мы дамовіліся кожны выбраць па адной мове, на якой мы будзем размаўляць з дзіцём. У мужа родная французская, а другая родная – партугальская. Калі хто ведае, як французы ставяцца да сваёй мовы (падказка: адным з працоўных абавязкаў маёй свякроўкі было клапаціцца, каб французкая мова прысутнічала на міжнародных мерапрыемствах), то выбару французскай мовы для навучання дзіцяці зусім не зьдзівіцца. Так, муж абраў французскую мову.

Для мяне выбар быў крыху больш складаным. З аднаго боку, выбар расейскай мовы больш практычны, бо расейскай можна без праблемаў карыстацца ў Беларусі, дый і іншых краінах, дачцы можна было б лягчэй знайсьці расейскамоўных сяброўак, існуе больш рэсурсаў, школаў і нават садкоў. Але беларуская мова, якую я найперш вучыла з бабулямі і дзядулямі, і нават прадзедамі, ў вёсцы — гэта самае маё. Для мяне гэта сувязь з пакаленьнямі (а ў эміграцыі часта да такой сувязі павышаная чульлівасьць), гэта сувязь з тымі мясьцінамі, куды мяне найбольш цягне, гэта пачуцьцё гармоніі... Беларуская таксама надзвычай блізкая да іншых славянскіх моваў і з мінімальнай практыкай іх можна лёгка навучыцца разумець, напрыклад, украінскую, польскую, баўгарскую, чэшскую. Абраць мы дамовіліся толькі адну мову, і я абрала беларускую.

"Зразумела, ты ж беларуска, і беларуская мова – твая спадчына. Ты ж гэтым павінна ганарыцца, і гэта твой абавязак яе навучаць" – падтрымаў мяне муж, калі я яму сказала, што буду вучыць дачку беларускай. З яго погляду, гэта найбольш натуральны выбар. Дзеці адчуваюць, калі бацькі не ганарацца сваёй спадчынай, і таксама пераймаюць такое станаўленьне. Калі ты нечага цураешся, то і дзеці будуць таго ж цурацца. Беларуская спадчына, як і французкая, гэта частка індывідуальнасьці дачкі, і гэта робіць яе неардынарнай.

Калі я пачала глядзець на рэчы вачыма мужа, то іншага выбару я зрабіць і не магла. Мне застаецца толькі годна несьці свой "крыж", а гэта значыць, штодзённа ставіць беларускую мову нараўне з французскай. Аднак, прызнацца, мне даводзіцца праяўляць шмат крэатыўнасьці для гэтага (хаця, я ўдзячная, што стала больш крэатыўным чалавекам). Калі ў мужа ёсьць лёгкі доступ да кніжак, відэа на YouTube, песьняў і французскіх гурткоў і мерапрыемстваў, то сучасных медыя на беларускай мове, якія адпавядаюць узросту маёй дачкі, вельмі не хапае. Напачатку мне было вельмі лёгка перакладаць ангельскія кніжкі зьлёту, але зараз дачка дасягае ўзросту Doctor Seuss, і пераклады зьлёту лёгка не даюцца (хаця я спрабую!).

Навукоўцы даводзяць пра перавагі білігвізма, а я таксама ўдзячная, што ў маім асяроддзі бі- ці шматлінгвізм, як зь?ява, падтрымліваюцца і заахвочваюцца. І я, і муж робім намаганьні, каб перадаць дачцы свае мовы. Але, дзецям патрэбна чуць мову з некалькі крыніц, развучваць песьні на мове, глядзець відэа. Найпрасцейшы варыянт – гэта перакладаць існуючыя матэрыялі з іншых моваў. У нашым выпадку – гэта таксама найлепшы варыянт, бо дзіця можа глядзець тыя самыя відэа, чытаць тыя самыя кніжкі і чуць песьні, што і іх аднагодкі; іншая перавага – героі з гэтых медыя паўсюль у нашым навакольлі (напрыклад: дактары выдаюць налепкі са сьвінкай Пэпай ці Дорай). Чытаць жа беларускія казкі пра сялянскае жыцьцё было б вельмі складана, бо дзіця ня мае дастаткова гістарычнага і культурнага кантэксту, а жыцьцё вакол вельмі адрозніваецца, каб іх зразумець. З іншага боку, арыгінальныя беларускія кніжкі, якія зь'яўляюцца прыгоднымі для таго, каб іх чыталі ў міжкультурным кантэксце, застаюцца быць вельмі важнымі для вывучэньня асаблівасьцяў беларускай культуры.

Трэба адзначыць, што сучасныя кніжкі па-беларуску пачалі зьяўляцца, але гэтага недастаткова. Таму, далучайцеся, сябры, з крэатыўнымі праектамі! Калі рэсурсаў не хапае ў замежжы, то верагодна, такія рэсурсы будуць дарэчныя і ў Беларусі. Прыводжу прыклады рэсурсаў, якіх патрабуюць дзеці:

1) Арыгінальныя беларускія кніжкі, нейтральныя і пазітыўныя, каб можна было ўжываць у розных культурных кантэкстах. Прыклад кніжкі па-ангельску: The Hungry Caterpillar. Такая кіжка будзе дарэчнай і ў Беларусі, і ў США аднолькава, бо даводзіць важнасць харчавацца правільна.

2) Пераклады сучасных кніжак, асабліва важна для замежжа. Нейтральныя і пазітыўныя, як і вышэй. Прыклад амерыканскай класікі: Good night, moon.

3) Відэа для розных узростаў. Для дзяцей каля 1.5 гадоў – нешматслоўныя, як Mimi La Souris (французская). Маленькім яна падабаецца, бо яны не губляюцца ў словах, а колеры вельмі ясныя і выразныя. Ад 2.5 – больш складаныя (вельмі чакаем свінку Пеппу!). Яшчэ вельмі выдатна было б мець адукацыйныя відэа, як Sesame Street, дзе распавядаецца дзецям, што такое астма.

4) Песні для дзяцей рознага узросту, каб вывучаць, колеры, альфабэт, лічбы (мы вельмі любім умачку (https://www.youtube.com/watch?v=tRsiMtFPI-I), больш бы такіх! (І даступных у youtube). Ці проста вясёлыя песні, вось напрыклад французскія, ня надта складаныя:

https://www.youtube.com/watch?v=WjhQvv9kexk. Асабліва дзеці любяць песенькі, якія можна паўтараць шмат разоў і разыгрываць на пальцах (глядзіце мой пераклад The Itsy Bitsy Spider).

5) Apps, якія вучаць, літарам, лічбам ці колерам, якіх можна было б спампаваць на розныя аперацыйныя сістэмы. Прыкладаў шмат.

Такія рэсурсы былі б на дапамогу бацькам!

Зразумела, з садку і школы дачка навучылася ангельскай, і таму па-ангельску ёй выказвацца лягчэй, але яна выдатна разумее па-беларуску. Далейшае, актыўнае карыстанне мовай пакуль крыху запаволілася. Дзецям трэба чуць мову ад некалькі чалавек. Для беларускай, як і шмат іншых моваў, дзе словы маюць жаночыя і мужчынскія формы, гэта асабліва важна. Пэўны час, калі з дачкой размаўляла толькі я, то яна думала, што дзеясловы з канчаткам – ла ўжаюцца для ўсіх. Значыць, "я паела, мама паела, і тата паела". Калі гэта адпавядае структуры ангельскай мовы, то беларускай – не. Але пасля некалькіх тыдняў з бабуляй ці дзядуляй справы выпраўляюцца, хоць і павольна. Дачка пачынае часцей вымаўляць па-беларуску: – Мама, а дзе машына? Ці: – Я не хачу спаць. А бабуля яшчэ і навучыла дачку вымаўляць "Я беларуская дзяўчынка." Аднак, дзеці таксама любяць паўтараць адно за адным (як добрае, так і кепскае), і нам пакуль не хапае знаёмстваў з іншымі беларускімі дзеткамі. Але, нашая суполка паволі расьце, таму спадзяемся на хуткае зь'яўленьне новых сяброў для маёй дачкі!

***Вольга Рошчанка,***
*Вашынгтонскі гурток БАЗА*

---

*Бруклінскі аддзел БАЗА*
*і Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага*
**ЗАПРАШАЮЦЬ ДЗЕТАК І ІХ БАЦЬКОЎ**
**на заняткі па вывучэньні роднай мовы і багатай духоўнай спадчыны беларускага народа ў нядзельную школу, якая будзе працаваць пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага**
***(401 Atlantic Ave, Brooklyn, NY).***
*Усіх зацікаўленных просьба зьвяртацца на адрас электроннай пошты:*
***160280lena@gmail.com***

---

## Мова родная

Ты нам служыла мова родная
У гады прыгнётаў, а ў гады галодныя
Ты плакала з намі...
А калі засьмяешся свабодная ?
Хоць ты тужыла й плакала
Ты пад прыгнётам словы родныя,
Як золата зьберагла
І ўнукам перадала...
У доме ўнукаў Ты ізноў запяеш
Жаваранкам.
Словы песьні Твае маланкамі
Уначы засьвецяць унукам
І сьветлым стане іх дом

***Міхась Саўка***
*1980 год*

# Каляндар памятных датаў на люты - сакавік 2016

## ЛЮТЫ

**4 лютага - 85 гадоў таму,** у 1931 годзе, памёр у сталінскай турме **Усевалад Ігнатоўскі**, гісторык, першы прэзыдэнт Акадэміі навук Беларусі

**4 лютага – 270 гадоў таму,** у 1746 годзе, нарадзіўся **Тадэвуш Касьцюшка**, дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік вызвольнага паўстаньня 1794 году, удзельнік вайны за незалежнасьць ЗША, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША.

**5 лютага – 100 гадоў таму,** у 1916 годзе, нарадзілася **Валянціна Пашкевіч**, дзеячка эміграцыі ў Канадзе, аўтарка беларускіх падручнікаў і "Ангельска-беларускага слоўніка"

**5 лютага – 15 гадоў таму,** у 2001 годзе, памёр **Масей Сяднёў**, літаратар, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**6 лютага – 110 гадоў таму,** у 1906 годзе, нарадзіўся Тамаш Падзява, каталіцкі сьвятар-марыянін, рэлігійна-культурны дзеяч

**7 лютага – 135 гадоў таму,** у 1881 годзе, нарадзіўся **Рамуальд Зямкевіч**, бібліёграф, публіцыст, краязнавец

**7 лютага – 125 гадоў таму,** у 1891 годзе, памёр **Вінцэнт Каратынскі**, беларускі і польскі паэт.публіцыст

**8 лютага – 95 гадоў таму,** у 1921 годзе, нарадзіўся **Іван Мележ**, пісьменьнік

**12 лютага – 270 гадоў таму,** у 1746 годзе, у Косаўскім касьцёле ахрышчаны **Тадэвуш Касьцюшка**, дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік паўстаньня 1794 году, удзельнік вайны за незалежнасьць ЗША, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША.

**14 лютага – 110 гадоў таму,** у 1906 годзе, нарадзіўся Мікола Улашчык, гісторык, краязнавец, этнограф

**15 лютага – 90 гадоў таму,** у 1926 годзе, нарадзіўся **Мікола Ягоўдзік**, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Бэльгіі і ЗША

**17 лютага – 100 гадоў таму,** у 1916 годзе, памерла **Алаіза Пашкевіч (Цётка)** паэтка, асьветніца, грамадзка-палітычная дзеячка

**18 лютага – 60 гадоў таму,** у 1956 годзе, памёр **Янка Быліна (Ян Семашкевіч)** каталіцкі сьвятар, пісьменьнік

**21 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы**

**23 лютага – 125 гадоў таму,** у 1891 годзе, нарадзіўся **Міхаіл Піятуховіч**, літаратуразнавец, педагог

**25 лютага – 110 гадоў таму,** у 1906 годзе, нарадзіўся **Павал Каруза,** кампазітар, грамадзка-палітычны дзеяч

**25 лютага – 30 гадоў таму,** у 1986 годзе, памёр **Ізыдар Гуткоўскі (Плашчынскі)**, літаратуразнавец, грамадзкі дзеяч

## САКАВІК

**2 сакавіка – 120 гадоў таму,** у 1896 годзе, нарадзіўся **Станіслаў Глякоўскі**, каталіцкі духоўнік, грамадзка-культурны дзеяч, публіцыст

**4 сакавіка – 105 гадоў таму,** у 1911 годзе, нарадзіўся **Васіль Стома**, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**4 сакавіка – 60 гадоў таму,** у 1956 годзе, у Беластоку **выйшаў першы нумар газэты "Ніва"** тыднёвіка беларусаў у Польшчы

**5 сакавіка – 120 гадоў таму,** у 1896 годзе, нарадзіўся **Кандрат Крапіва**, драматург, паэт-сатырык

**7 сакавіка – 130 гадоў таму,** у 1886 годзе, нарадзіўся **Усевалад Фальскі**, актор, тэатральны і грамадзеі дзеяч

**11 сакавіка – 105 гадоў таму,** у 1911 годзе, нарадзіўся **Леў Гарошка**, уніяцкі рэлігійны дзеяч, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Францыі і Вялікабрытаніі

**12 сакавіка – 165 гадоў таму,** у 1851 годзе, памёр **Ян Баршчэўскі**, пісьменьнік, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры

**17 сакавіка – 65 гадоў таму,** у 1951 годзе, памёр **Альберт Паўловіч**, паэт, драматург

**18 сакавіка – 95 гадоў таму,** у 1921 годзе, **падпісана Рыжская дамова**, якая падзяліла Беларусь

**19 сакавіка – 95 гадоў таму,** у 1921 годзе, нарадзіўся **Язэп Юхо**, юрыст, гісторык права

**20 сакавіка – 40 гадоў таму,** у 1976 годзе, памёр **Уладзімір Дубоўка**, паэт

**25 сакавіка – Дзень Волі**

**27 сакавіка – Міжнародны дзень тэатра**

**27 сакавіка – 125 гадоў таму,** у 1891 годзе, нарадзіўся **Клаўдзій Дуж-Душэўскі**, архітэктар, дзеяч БНР, стваральнік дызайна беларускага нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцяга.

## УВАГА!

**Паведамляем наш новы паштовы адрас, на які трэба дысылаць пошту для газэты "Беларус":**



**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025**
**USA**

## ВІНШАВАНЬНЕ

***Сябры Вашынгтонскага гуртка БАЗА віншуюць Лілю Смелкаву і Шона Какерхама з народзінамі сына Леанарда.***

***Жадаем,***
***каб шчасьце табе***
***усьміхалася,***
***А мара любая***
***аднойчы здзяйсьнялася.***
***Вясельле і радасьць,***
***і добры настрой***
***Хай крочаць***
***заусёды з табой!***



## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| М. Мароз (Аўстралія) | $ 60 |
| А. Мароз (Аўстралія) | $ 60 |
| Е. Дамброўскі (Аўстралія) | $ 60 |
| М.Раецкі (Аўстралія) | $ 60 |
| Ольга Земскова (Аўстралія) | $ 50 |
| Беларуская Асацыяцыя ў Заходняй Аўстраліі | $ 60 |
| Ала Караткевіч | $ 45 |
| Б.Паўк | $ 50 |
| Аляксандр і Наталія Вакуліч | $ 100 |
| Лявон Шурак | $ 50 |
| Міхась Швэдзюк (Англія) | $ 50 |

**Выказваем самую шчырую падзяку усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

СКЛАД РЭДАКЦЫІ:
Адказны рэдактар
Ганна СУРМАЧ
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
Таня КРАСОЎСКАЯ
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
Галіна ПАДЛЕСКАЯ
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
Натальля СТАРАВОЙТАВА

Адрас Рэдакцыі:
BIELARUS Newspaper
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432, USA
Паштовы адрас:
P.O. Box 456
New York, NY 10025 USA
Электронны адрас (E-mail):
bielarus@bazahq.org
Кампутарная вёрстка
Mikalai Media Productions

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*
*Грашовыя чэкі выпісываць на імя: BIELARUS Newspaper і дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.*
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.*